Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 19. Вільня, Нядзеля, 27-га ліпня 1924 г. Год I.

## „Маніфэст“ п. Тугутта.

Пан Тугутт, пасьля свайго правалу ў справе „збратаньня“ польскае „дэмакратыі“ з эндэкамі, напісаў адкрытае пісьмо на імя аднаго з сваіх партыйных таварышоў, пасла Панятоўскага, даючы тлумачэньне свайго паступку: згоды ўвайсьці ў склад ураду п. Грабскага адначасна з лідэрам эндэкаў—братам прэм'ера, Станіславам Грабскім.

Здраду дэмакратыі п. Тугутт тлумачыць „дзяржаўнымі патрэбамі“:

„Польшча сяньня знаходзіцца ў гэткай цяжкай патрэбе, у якой ня была ад часу стварэньня Дзяржавы,—хіба толькі ў мамэнт бальшавіцкага наезду. Праўда, санацыя скарбу і аздараўленьне грошы значна пайшлі ўперад, але яны зусім яшчэ не закончаны. Гаспадарчае палажэньне робіцца з дня на дзень горшым. Мужык дохне з голаду, тысячы работнікаў выкідаюцца што-дня на брук. У міжнародавых адносінах мы праспалі колькі гадоў на мяккай посьцілцы меней ці бслей нягодных трактатаў і сяньня прачыхаемся з пачуцьцём пагражаючай нам небясьпекі: нашыя, нібы-то бароначыя нас, саюзы могуць быць зьніштожаны, а з акружаючае нас цемры чуваць толькі рыканьне ненавісьці нашых ворагаў і марматаньне раўнадушнасьці, недаверыя ці пагарды да нашае дзяржавы. На нашых Крэсах пануюць такія адносіны, што, калі ў працягу некалькіх гадоў ня прыйдзе перамена, дык будзем мець тамака аружнае паўстаньне, якое або адарвець у нас некалькі правінцыяў, або мусіць быць затоплена ў моры крыві. Цікавяцца намі адны толькі бальшавікі, якія заліваюць нас паводкай злоснае агітацыі. Было-бы поўбяды, калі-б гэтага эвангельля ненавісьці слухалі толькі з прычыны мінаючае нэндзы“...

Вось, усё гэтае, паводле п. Тугутта, патрабуе, каб у склад ураду ўвайшлі людзі, „якіх вымагае дзяржаўная патрэба“. І такім канешне патрэбным дзеля „ратаваньня“ Польшчы з сучаснага катастрафічнага, на пагляд п. Тугутта, палажэньня чалавекам зьяўляецца ніхто іншы, як іменна і выключна сам пан Тугутт....

Пан Тугутт зусім выразна гаворыць аб тым, што ўсякая апазіцыя ў сучаснай Польшчы—шкодна для самога істанавання Польскае Рэспублікі: яна можа давясьці да Рэвалюцыі. І п. Тугутт зусім шчыра і адкрыта высказываецца проці Рэвалюцыі ў Польшчы:

„Аставалася бы Рэвалюцыя; не баюся ані слова, ані самае рэчы; калі-б у нас магла выбухнуць нашая уласная, сямейная Рэвалюцыя, дык я бы ей не працівіўся. Ведама, калі-б была нечым дасьпелым у народнай сьвядомасьці і ў гаспадарчых варунках. Але ў нас ня можа быць гутаркі аб Рэвалюцыі, а толькі аб братабойчай хатняй вайне з невядомым вынікам. Ці, лепш, з вынікам зусім вядомым, калі ўзяць пад увагу камуністаў, якіх маем за сьпіной і якія заўсёды будуць гатовы расчыніць шырока дзьверы бальшавіцкаму наезду, лепш сказаць—расейскаму наезду. Дзеля гэтага я не хачу Рэвалюцыі, як не хачу і самалюбна-становага будаваньня Польшчы“.

Пісьмо п. Тугутта—гэта цэлы маніфэст—новая праграма тых прадстаўнікоў дэмакратычнае інтэлігенцыі, якія *баяцца*, шчыра кажучы, *ня гэтулькі вонкавага націску, колькі свайго ўласнага народу*. П. Тугутт умеў гаварыць языком свайго народу да таго мамэнту, пакуль не пачуў пад сабою моцнага, як яму здаецца, грунту: пакуль яго „асабістая павага і значэньне“, хоць і набытыя выключна дзякуючы падтрыманьню народнае масы, не забясьпечылі яму міністэрскага партфэлю... І цяпер, калі на плячох народу ён даехаў да ўлады, лідэр „Вызваленьня“ высказывае недаверые тым, на кім ехаў!

Мы затрымалі увагу нашых чытачоў на пісьме п. Тугутта не дзеля ягонае асобы, а дзеля таго, што ў меру дасьпяваньня польскіх народных масаў іх правадыры вельмі лёгка мяняюць сваё становішча. І ў рашучы мамэнт народ на такіх людзей ня можа спадзявацца...

Ня можа спадзявацца і не павінен браць за чыстую манэту слоў, якія яшчэ ўчора Тугутты яму так горача гаварылі! Бо *нацыяналізм*, які так глыбока ўеўся ў душы польскае інтэлігенцыі, *аказваецца дужэйшым за ўсё іншае*.

З гэтым прыходзіцца лічыцца вельмі паважна і ўсім тым, хто, паводле слоў нашага пасла п. Тарашкевіча, чакае нейкае папраўы ад „глыбокіх устрасеньняў“ у Польскай Дзяржаве.

## Каго адбудавалі?

Украінскі пасол Казіцкі ў газэце „Наше Життя“ падае гэткія цыфры з справаздачы Генаральнае Дырэкцыі Адбудовы за час да 1 студня 1923 году:

| ВАЯВОДЗТВЫ: | Было зьнішчана будынкаў | Да 1 студня 1923 году адбудав. | Які % адбудаваны? |
|---|---|---|---|
| Варшаўскае | 90.527 | 61.644 | 65 |
| Лодзкае | 10.850 | 9.903 | 91 |
| Келецкае | 85.854 | 63.233 | 74 |
| **Беластоцкае** | **192.962** | **93.264** | **48** |
| Люблінскае | 177.477 | 97.897 | 50 |
| **Палескае** | **173.858** | **38.894** | **22** |
| **Наваградзкае** | **127.037** | **60.559** | **46** |
| **Віленская зямля** | **64.908** | **28.501** | **44** |
| Валынь | 202.196 | 111.278 | 54 |
| Львоўскае | 150.255 | 108.142 | 72 |
| Кракаўскае | 35.288 | 28.317 | 83 |
| Станіславаўскае | 128.782 | 65.329 | 50 |
| Тарнапольскае | 231.574 | 114.697 | 45 |
| | 1.671.568 | 881.660 | 52,7% |

Гэта табліца ясна паказуе, што палякі стараюцца адбудавацца нашым коштам, бо ў Лодзі ўжо адбудавалі 91%, у Кракаве 83%, у Кельцах 74%, у Варшаве 65%, а ў нашым бедным Палесьсі ўсяго толькі 22%. „А трэба ведаць, — кажа п. Казіцкі, — што за гэты час адбудавалі на кошт скарбу 137 касьцёлаў (і ніводнае царквы!)—і то ў той час, калі нашы людзі жывуць у норах, калі на Палесьсі чакаюць на адбудову 95.314 будынкаў. Дык ясна цяпер, чаму беларусу і украінцу гэтак цяжка дабіцца дапамогі на адбудову!“

Запраўды, ясна і сьляпому...

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

### Міністэрства Публічных Работ.

„Міністэрства Публічных Работ“—гучная вывеска, пад якой істнуе вельмі мала,—амаль што нічога. Задачы міністэрства: ўтрыманьне ў належным стане ўжо істнуючых і распачацьце засобамі дзяржаўнага скарбу новых прадпрыемстваў агульна-дзяржаўнага значэньня, якія не пад сілу паасобным самаўрадам, як напрыклад рэгуляваньне рэк, палепшаньне грунтаў, утрыманьне шляхоў, электрыфікацыя і г. д. Апроч таго, спэцыяльнае часовае заданьне мін.—адбудаваньне зьнішчанага вайной краю.

І вось, як сам кіраўнік міністэрства, так і ўсе прамаўляўшыя паслы, пачынаючы з дакладчыка, сьцьвердзілі, што ніводнае з гэтых заданьняў міністэрствам не выпаўняецца. Міністар сьцьвердзіў, што ніякіх новых „публічных работ“ урад сьвядома не пачынае, бо ў часе санацыі на гэта пастанавіў не марнаваць грошы... А пястовец **Козыдарскі** сьцьвярджае, што, дзеля нястачы грошы, прыйшло блізу да поўнае руіны і ўсё тое, што было зроблена „заборцамі“... Міністар хваліўся, што быццам адбудавана аж 61 проц. зьнішчаных будынкаў. Але вось той самы п. Козыдарскі казаў, што няўдача назначанай на адбудову лясной даніны выклікала „занядбаньне ўсей адбудовы—на вялікую шкоду насяленьня“. Ён слушна казаў, што ў часе інфляцыі ўрад мог быў шмат чаго зрабіць у галіне адбудовы і разбудовы, як гэта зрабілі немцы, але не зрабіў.

Пасол **Пасацкі**, („хлопскі зьвязок“) даводзіць, што „шляхі пагражаюць папросту катастрофай“, а паўтара мільёна дамоў стаіць неадбудаванымі“.

У галасаваньні бюджэт мін. П.Р. прымаецца бяз зьменаў.

### Міністэрства працы і сацыяльнай аховы.

Рэфэрэнт хадэк **Бітнэр** кажа, што ўвядзеньне 8-мі гадзіннага дня працы ня зьменшыла выдатнасьці прадукцыі, што прызналі самі прамыслоўцы. Галоўная прычына няздольнасьці польскай прамысловасьці да канкурэнцыі з заграніцай—старыя, нягодныя машыны спрад 50 гадоў. Дзеля аднаго гэтага польская прадукцыйнасьць у некаторых галінах у тры разы меншая, як у Чэхіі, і—аж у поўпята раза меншая, як у Амэрыцы!.. Апроч таго—яшчэ „памагае“ благая арганізацыя прадпрыемстваў і працы. На дапамогу безработным скарб дае толькі 6 мільён. злот., але гэта—кропля ў моры і ня вылячыць ад крызісу.

**Віцэ-міністар Сімон** кажа аб вельмі малых крэдытах, празначаных у бюджэце на ўсю працу міністэрства, якая абыймае ўсю сацыяльную палітыку 30 мільённага гаспадарства.

Пас. **Земенцкі** (ППС) кажа аб тым, што яшчэ нядаўна прэм. Грабскі ўрачыста абяцаў не рабіць замаху на сацыяльныя здабычы работнікаў, а цяпер скасаваў дзяржаўную ахову 8-мі гадзіннага дня.

Эндэк **Фалькоўскі** закідае міністэрству, што яно „за ўрадавыя грошы вяло камуністычную прапаганду (!) (голас на лявіцы і крыкі: „гэта бязчэльнасьць, лайдацтва!) У касах хворых галоўныя становішчы занялі камуністы, якія займаюцца толькі агітацыяй... (крыкі: „пан брэша!“).

Віцэ-міністар рэзка адказывае на агульныя абвінавачаньні п. Фалькоўскага.

Хадэк **Гдык** скардзіцца на мін. Дароўскага за падтрымліваньне сацыялістычных работніцкіх арганізацыяў і „неляяльныя адносіны“ да „хрысьціянскіх“...

Прадстаўнікі **жыдоў, немцаў, беларусаў і украінцаў** скардзяцца на тое, што мінінтэрства сацыяльнай аховы зусім ігнаруе патрэбы нацыянальных меншасьцяў...

„Народны работнік“ **Вашкевіч** кажа, што за 5 гадоў „сацыяльнай працы“ польскага ўраду ўся работніцкая кляса ў Польшчы зглела і зруйнавалася дарэшты! Увесь бюджэт польскага мін. працы і сацыяльнай аховы роўны бюджэту... вастрогаў у Польшчы!.

Бюджэт прыняты без пераменаў.

### Міністэрства „Зямельных Рэформ“.

Пястовец **Астроўскі** рэфэруе бюджэт спэцыяльна створанага Вітасам міністэрства пры зусім пустых лаўках клюбу Пяста. (Крыкі: „дзе-ж людоўцы?“).

Рэфэрэнт крытыкуе польскае аграрнае законадаўства і яго правядзеньне на практыцы. — Крытыкуе працу... клюбу Пяста!..

Уся „аграрная рэформа“ абмяжавалая парцэляцыяй—урадовай, паўурадовай і прыватнай. Усяго на парцэляцыю пайшло 1.097.000 гэктараў зямлі, а распарцэлявана запраўды толькі 467.900 гэкт., гэта значыць 36 проц...

Пераходзячы да асадніцтва, дакладчык кажа,

# Палітычныя падзеі.

### Бура ў Польскім Сэнаце...

На апошнім паседжаньні Сэнату сэнатар Кашніца зьвярнуў увагу маршалка на тое, што ў часе абрадаў над бюджэтам лаўкі паноў міністраў— зусім пуставалі. „Гэта ўказывае на „непашану“ з боку ўраду да найвышэйшай дзяржаўнай установы. Моўчкі прайсьці міма гэтага Сэнат ня можа“.

Маршалак зрабіў перарыў. Канвэнт сэньёраў выпрацаваў рэзалюцыю, у якой у досьць рэзкіх і ядавітых выразах даручыў маршалку паведаміць прэм'ера аб прычыне зробленага перарыву, пагражаючы ад імя Сэнату „шкадлівымі пасьледзтвамі гэткай няўважлівасьці ўраду да працы Сэнату“...

### Антыпольская дэманстрацыя ў Кіеве.

У Кіеве адбылася ізноў вялізарная дэманстрацыя камуністычнай моладзі з пратэстам проці разстрэлу ў Польшчы 17-летняга камуніста Энгля.

### Колькі войска мае ССРР?

Паміж Троцкім і вядомым англійскім ваенным спэцыялістам палкоўнікам Рэпінгтонам ідзе цікавая палеміка аб тым, сколькі войска мае ССРР. Троцкі даводзе, што ССРР мае толькі 600.000, а п. Рэпінгтон дадае, што, апроч гэтага, ССРР мае яшчэ 120.000 войска, якое знаходзіцца пад загадам Г.П.У., і—200.000 войск так званых „спэцыяльнага назначэньня“. На гэта Сэкрэтарыят Ваенна-Рэвалюц. Рады абвясьціў ізноў, што ССРР мае разам з атрадамі Г. П. У. і „спэцыяльнымі“ ваеннымі часьцямі ўсяго войска—562,976 чэлавек.

### Лёндонская Канфэрэнцыя.

Як мы прадбачылі, Амэрыка, нават ня маючы свайго паўнапраўнага прадстаўніка на Канфэрэнцыі, адыгрывае на ёй рашучую ролю, і гэта — дзеля таго, што пазыку для Нямеччыны, якая становіць фундамэнт усяго „пляну экспэртаў“, могуць і гатовы, але на сваіх варунках, даць толькі амэрыканцы...

І вось, толькі што адбыўшаеся пленарнае паседжаньне Канфэрэнцыі ярка пацьвярдзіла ўсё, што сказана вышэй.

Усе тры камісіі працавалі цэлы тыдзень, цэлы тыдзень ішлі спрэчкі і „паразуменьні“ дзьвюх змагаючыхся групаў Канфэрэнцыі—францускай і англійскай. Здавалася, што французы перамаглі. Але вось, пленарнае паседжаньне не дало ніякіх рэзультатаў, бо... амэрыканскія банкіры не згадзіліся на выпрацаваныя камісіямі варункі рэалізацыі „пляну Доўса“ і гарантыі амэрыканцам і зажадалі перапрацаваньня іх... „Сардэчнае даверые“ паміж французамі і англійцамі пачынае псавацца, бо першыя вінавацяць апошніх у тым, што яны „ўплываюць на апор амэрыканцаў“...

І прыдзецца французам — або ўступіць, або сарваць канфэрэнцыю.

### Лёндонская Канфэрэнцыя і Вэрсальскі Трактат.

Вельмі цікава, што Канфэрэнцыя мае выбраць асобную камісію юрыстаў, якая будзе мець даручэньне сьцьвярдзіць усе тыя пункты ў „пляне Доўса“, якія нарушаюць Вэрсальскі Трактат. Але-ж „плян Доўса“ ўжо згары прыняты ўсімі Сябрамі Канфэрэнцыі. Бедны Трактат! — бо ўжо ён зламаны нават сваімі галоўнымі абаронцамі французамі!

### Прамова амэрыканскага міністра Юза ў Лёндоне.

Прыехаўшы ў Лёндон, амэрык. міністар Юз у сваёй прамове на вялікім банкеце ў яго чэсьць сказаў: „Амэрыка верыць, што Канфэрэнцыя з належнай пашанай аднясецца да тых бязінтарасоўных радаў, якія даюць ёй прадстаўнікі Амэрыкі. Пазыка Нямеччыны—неабходны варунак усьпеху „пляну Доўса“. Але ўся праца Канфэрэнцыі акажацца бясплоднай, калі яна не забясьпечыць падпісаўшымся на пазыку належных гарантыяў“.

Адно да аднаго: — ясна відаць, Амэрыка камандуе на Канфэрэнцыі, на якой яна прысутна блізу толькі як „сьведка“.

### Амэрыканскі мільярдэр едзе ратаваць Канфэрэнцыю.

Амэрыканскі мільярдэр Морган, даведаўшыся з тэлеграм аб крызісе Лёндонскай Канфэрэнцыі, выехаў у Эўропу, каб ратаваць „паразуменьне“ Англіі і Францыі і правясьці пазыку для Нямеччыны.

Пішуць, што амэрыканскія фінансісты выслалі Моргана дзеля таго, што Амэрыка хварэе... на лішак гатоўкі (бедная!), і пазыку для Нямеччыны яны лічаць найвыгаднейшым памяшчэньнем капіталу.

### Калі будуць запрошаны на Канфэрэнцыю немцы?

Мак-Дональд ужо другі раз ад пачатку Канфэрэнцыі падымае пытаньне аб тым, каб запрасіць прадстаўнікоў Нямеччыны, але пад націскам французаў (пана Эрыо і таварышоў!) пастаноўлена, пакуль ня будуць згодна прыняты галоўныя пастановы саюзьнікаў, не турбаваць дарэмна немцаў. Бо можа да гэтага і ня дойдзе... Як мы ведаем, яшчэ ані воднае пастановы Канфэрэнцыя ня прыняла аканчальна.

### Нямецкі Рэйхстаг аб „пляне Доўса“.

Канцлер Маркс склікаў прадстаўнікоў усіх клюбаў Рэйхстагу, каб устанавіць іх адносіны да працы над „плянам Доўса“ на Канфэрэнцыі ў Лёндоне.

І вось, гэтая „Бэрлінская Канфэрэнцыя“ сцьвярдзіла, што нямецкі ўрад толькі тады можа лічыць на падтрыманьне парляманту, калі Лёндонская Канфэрэнцыя пастановіць зараз-жа эвакуаваць Рурскі абшар і стварыць для немцаў варункі раўнапраўнага ўчасьця ў Канфэрэнцыі ў Лёндоне.

### Палітычная сітуацыя ў Італіі.

Барацьба фашыстаўскай правіцы з апазіцыяй глуха і заядла ідзе далей. Урад Мусоліні, няздольны выйсьці з тупіку, стаіць на мёртвым пункце, ўсё больш трацючы аўтарытэт. Апошняя прамова Мусоліні прайшла бяз усякага ўражэньня. Апазіцыя моцна стаіць на дамаганьні—перадусім зьліквідаваць фашыстаўскую міліцыю, якая ўтрымліваецца за грошы, зьбіраныя з усіх грамадзян краю. Газэты апазіцыі паўтараюць аднагалосна, што ўсе фразы Мусоліні аб „унармаваньні адносінаў“ у краю астануцца пустымі, пакуль ён ня выпаўніць гэтага галоўнага варунку нармальнай дзяржаўнасьці.

### Сёмы забойца Маттэотті.

Толькі што сьледчы, які вядзе сьледзтва аб забойстве Маттэотті, атрымаў паказаньне аб сёмым забойцы Маттэотті, нейкім Памзэрі, які таксама прапаў бяз весьці, як і ўсе іншыя, бо і яго „адсунулі“, як лішняга сьведку.

### Ваенныя паражэньні генеральскага ўраду ў Гішпаніі...

Генерал-фашыстаўскі ўрад у Гішпаніі аканчальна траціць усякую павагу і пашану ў краі. Яго ваенныя паражэньні ў гішпанскім Марокко ня толькі каштавалі Гішпаніі масу людзей і грошы, але ўжо пагражаюць і самаму істнаваньню гішпанскае ўлады ў Афрыцы...

Францускія газэты падаюць, што бышыя гішпанскія землі ўжо абвесьцілі незалежнасьць і ўтварылі новую рэспубліку „Ріф“, з прэзыдэнтам Абдулам Кріма на чале. Як ведама, „сам“ прэм'ер генерал Пріма ді Рывэра камандуе гішпанскай арміяй ў Афрыцы!..

Вось—рэзультаты фашыстаўскага ўраду ў Гішпаніі...

„Паўдзённыя Крэсы“ Гішпаніі аказаліся страчанымі для іх „прыроджанага гаспадара“...

### Сьмерць Бьюкэнэна.

Памёр вядомы англійскі дыплёмат п. Бьюкэнэн, які быў столькі гадоў паслом у Расеі і ў значнай меры ўтварыў франка-англійскую Антанту з учасьцем Расеі, скіраваную проці Нямеччыны, што і прысьпешыла Вялікую Вайну.

# Успамін аб Мацею Бурачку.

Мусіць, мала хто з нашых пісьменьнікаў пакінуў сярод нашых сялян, з якімі жыў поплеч, такую сьветлую памяць, як аўтар „Дудкі“ і „Смыка“, Францішк Багушэвіч. З шчырымі сьлязамі на вачох апавядаюць аб ім тыя, хто яго памятае.

Вось просты ўспамін некалі „любіміцы“ Мацея Бурачка, Гэлі Каспаровічанкі (па мужу Горыт) з Наздрачунаў, Сольскае гміны (Ашмяншчына),—суседкі Кушлянскага двара.



„Цяпер мне ўжо сорак гадоў, а помню, як-бы ўчора, тыя часы, калі была йшчэ малой дзяўчынкай, і Ен часта заглядаў у нашу хату. Бывала, прыдзе, сядзе, на зэдлі і гутарыць аб усіх нашых бедах. Шмат каму і ў бядзе памагаў, дый за вушы ў людзі павыцягіваў. Часта чытаў нам вершы беларускія, а раз прынёс і падараваў мне кніжачку з вершамі—„Дудку Беларускую“. Пыталіся мы: хто-ж гэта ўсё так хараша напісаў?—„Гэта,—казаў,—пісаў акурат такі самы чалавек, як і вы ўсе. Вось, вучыся добра, Гэля, дык мо' і ты некалі пісаць будзеш!“ Але ніколі не сказаў, што гэта-ж ён сам піша. Меў ён грубы сшыток з рознымі беларускімі вершамі—апрача друкаваных у „Дудцы“ і „Смыку“: памятаю, што між імі былі вершы „Шаршуны ў летку, шаршуны ў зімку“, „Вясковая баба“ і шмат іншых.

„З народам жыў, як самы блізкі да нас чалавек, як свой. Бывала на імяніны прыходзілі мы да яго, дык вядзе ў хату і з усімі знаёміць. Сям'я яго яму не спагадала і гэтага вельмі ня любіла... Весела гулялі ў яго на дажынкі; сам з нашымі дзяўчатамі скакаў, ды песьні нашыя любіў пяяць. Асабліва-ж любіў сьпяваць сваю ўласную песеньку: „Ой, калючы ялавец, ягадкі салодкія“.

„Любіў ён часта хадзіць на гару, што называецца Лысая Гара. Нейкія там паперы закапываў, хаваючы іх. Быў тамака вялікі камень, які сяньня ляжыць на сваім месцы, толькі надпіс на ім высечаны—у памяць аб ім. Сюды мы часта ходзім успамінаць і паплакаць па ім.

„Да самае ягонае сьмерці мы так і ня ведалі, чые гэта вершыкі ён нам усё чытаў. І толькі на пахаронах з надпісаў на ўстужках пры вянкох даведаліся мы, каго хавалі...

„Крэпка дзержыцца памяць аб ім сярод нашых сялян.

„Давялося мне цяперака прыехаць у Вільню, дык хачу купіць усе яго кніжачкі, якія друкаваліся: гасьцінца дзецям завязу!“.

Трывалы памятнік пабудаваў сабе Мацей Бурачок—у сэрцах нашага народу!

Запісаў: **Ант. Н—на.**

# З газэт.

### „Актуальная“ справа.

У адным з апошніх нумароў газэты „Kurjer Poranny“ надрукавана стацьця пад загалоўкам: „Po całorocznej przerwie w polskiej polityce zagranicznej“. Газэта вінаваціць польскую правіцу ў тым, што ў працягу году—ад часу запанаваньня ўраду п. Вітоса—Польшча зусім не вяла ніякае заграпічнае палітыкі, а тым часам у міжнародавых адносінах дасьпела многа спраў, якія ў першы чарод датыкаюць істнаваньня Польскае Рэспублікі.

Стацьця пачынаецца ссылкай на кнігу прэзыдэнта Чэха-Славакіі, праф. Масарыка, аб „Новай Эўропе“, дзе паміж іншым чытаем:

> Уклад этнаграфічных граніц пасьля ваеннае навальніцы будзе мо' ў некаторых прыпадках тымчасовы. Як толькі дзяржавы супакояцца і прымуць прынцып самавызначэньня, выпраўленьне этнаграфічных граніц і меншасьцяў будзе праведзена без узбурэньня і з належнай увагай на ўсе зьвязаныя з гэтым пытаньні.

„Kur. Por.“ цэлым радам фактаў даводзіць, што гэты пагляд пачынае панаваць у-ва ўсім палітычным сьвеце:

> Калі п. Гэндэрсон, як статс-сэкрэтар унутраных спраў Англіі, ў вядомай сваей прамове пасьля пераходу ўлады да габінэту Мак-Даналда заявіў, што ў палітычнай праграме партыі, якой створаны ўрад, выстаўляецца **перагляд такжа і тэрыторыяльных граніц Вэрсальскага Трактату**, — п. Мак-Данальд аграпічыўся заявай, што п. Гэндэрсон прамаўляў не ад імя ўраду, а ад свайго ўласнага. Аднак у пісьме да Пуанкарэ, абгаварываючы пытаньні аб бясьпечнасьці, п. Мак-Данальд падаў праект, каб з пагранічных зямель, якія зьяўляюцца крыніцай міжнародавых непаразуменьняў, **утварыць нэўтральныя тэрыторыі** пад вярхоўным наглядам Лігі Народаў.

Думка гэтая—у нас ня новая: яе ў часе „жэлігоўшчыны“ выставіў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні ў сваім мэморыяле ў Лігу Народаў, здадзеным на рукі п. Шардіны. Бел. Нац. Камітэт дамагаўся тады нэўтралізацыі ўсяго абшару Заходняе Беларусі пад апекай Лігі Народаў....

Але вернемся да стацьці „Kur. Por.“. Газэта далей прыводзе яшчэ адзін — вядомы ўжо факт выступленьня сучасных валадароў Францыі з пратэстам проці „белага тэрору“ ў Польшчы і проці уціску „меншасьцяў“ і робіць вывад, што ўсе гэтыя факты

> даводзяць толькі аднаго: іменна таго, што справа нашых (Польшчы!) граніц, ня гледзячы на Вэрсальскі Трактат і пастанову Амбасадораў з вясны леташняга году, ня ўтраціла йшчэ некаторай „міжнародавай актуальнасьці“.

Да прычын гэтае „актуальнасьці“ справы польскіх граніц „Kur. Por.“ залічае перад усім становішча ў гэтай справе Міравое Канфэрэнцыі (гл. стацьцю „Усходнія граніцы“ ў № 12 „Сына Беларуса“!). Газэта кажа:

> Мы не павінны забываць аб тым, што вызначэньне ў Вэрсальскім Трактаце толькі заходняе граніцы Нямеччыны пры адкладзе на неазначаны тады час вызначэньня ўсходняе граніцы Польшчы сьведчыла, што ў галовах дзяржаўных дзеячоў, якія засядалі ў Парыжу, Польшча—не раўнуючы з Чэхаславакіяй, будаванай на землях **перамоганых дзяржаў**,—прадстаўляла толькі суррагат аднае з дзяржаў, твораных на тэрыторыі **саюзнае** Расейскае Імпэрыі.

Адзначыўшы далей працу польскіх палі-

